Не спазніцеся з падпіскай на «Народную Волю» на першую палову 2016 года. Будзем разам!

№ 94 (4039)

1 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

МЫСЛИ ВСЛУХ



Сергей НЕРОВНЫЙ

## Триумф красного человека

Красным колесом прошлась по России и ее колониям октябрьская революция 1917 года. Захватившие власть безумцы-большевики вознамерились переделать страну, потом – весь мир. У них была жутко привлекательная идея: построить общество совершенных людей, экономику без частной собственности, без эксплуатации человека человеком. Осуществить принцип: от каждого по способностям – каждому по потребностям. Россия должна была стать «городом Солнца».

Краеугольным камнем коммунистической идеи был план переделать «старого» человека с его «порочным капиталистическим сознанием». Большевики хотели из «рабов царизма» вывести породу грамотных и свободных людей, сознательных и бескорыстных.

Чтобы этот процесс не затягивать, вожди коммунизма решили тех, кто не желал перевоспитываться, выгнать из страны, а оставшихся пустить в расход. Поплыли к далеким берегам «философские пароходы» с несознательным элементом, в стране же вспыхнула гражданская война. Кто определял, желает человек перевоспитаться и стать коммунистом или же хочет оставаться дремучим «рабом царизма»? Тем, кто первым присягнул большевикам, доказал им свою лояльность, вступил в их партию, выдавали кожанку, наган, бумагу с печатью и давали право определять, кто готов стать «новым» человеком. Надо понимать, обладатели наганов и кожанок как раз и были первыми совершенными людьми, на которых следовало равняться остальным.

Процесс создания нового человека, которого многие исследователи называют «красным», затянулся. Выяснилось, что многие подались к большевикам не по зову сердца и души, а по причине обычной человеческой хитрости: получить власть, паек и иные блага. А на самом деле они были «английскими шпионами, вредителями и диверсантами». Сколько подобных людей перемололи жернова красной мельницы! Конечно, позднее большинство из этих шпионов, вредителей и диверсантов были реабилитированы – на пути к великой цели не было принято обращать внимание на «мелочи», исчисляемые миллионами человеческих судеб и жизней.

Нужно признать, что коммунистам путем долгого отбора удалось вывести особую породу людей – homo soveticus. То есть всех нас. Им не удалось построить конкурентоспособное государство – оно развалилось как карточный домик через 11 лет после наступления коммунизма (1 января 1980 г.). Развалилось безо всякой оппозиции, внешней интервенции. Но особые люди у коммунистов получились. Они продолжают жить и даже склонны к клонированию.

«Совки» во всем совершенны: во лжи, в приспособленчестве, в лени, в трусости, в жадности, в ненависти к другим. В убогой жизни они готовы обвинять кого угодно, только не себя. Они готовы терпеть властолюбца у власти, «лишь бы не было войны, после которой ели гнилую картошку». «Совки» любят воевать чужими жизнями, любят, чтобы «нас все в мире боялись». Они любят «твердую руку» – вождей. Они готовы идти на «выборную клоунаду», потому что «начальство попросило». Коммунисты выпестовали «винтик», «серую безропотную мышь» – человека без гражданской совести, чести, достоинства, без ответственности перед потомками, человека, живущего одним днем.

Капиталисты учились после октября 1917 года гораздо успешнее большевиков: предоставили рабочим 8-часовой рабочий день, достойные заработки, правовую защиту свободными профсоюзами, право приобретать акции предприятий. Люди на Западе реально могли выбирать депутатов, власть. Отсюда – устойчивость, самоорганизация и саморазвитие западного общества.

Лидер большевиков В.Ленин считал, что практика – критерий истины. Что ж, воспользуемся его мыслью. Что от великой идеи осталось на практике? Страны – нет, мощной экономики – нет (преемник СССР – Россия – по размеру ВВП уступает ряду американских штатов), хотя к частной собственности пришлось вернуться, «святого» человека – нет. Победы коммунизма во всем мире, о чем мечталось большевикам, – нет. Разбежались под крыло капиталистов страны-сателлиты, которые мы удерживали силой. И мы только мечтаем о западных кредитах и технологиях.

7 ноября в моем родном Кричеве «проржавленный» коммунист З.Скачкова, большевистская совесть которой в свое время вполне позволила ей руководить частным техникумом и таким образом работать на «пана-капиталиста», вывела на «лобное место» города своих единомышленников преклонного возраста «помянуть Октябрь». Подсобил и райисполком людьми из разных организаций. Стыли на холоде одетые по-летнему пионеры. В очередной раз ощущался триумф красного человека.

*г.Кричев*

ДЕНЬГИ

## Евро покатился вниз

Те, у кого сбережения хранятся в евро, замерли в ожидании. Точно так же, как и те, у кого в европейской валюте подписаны контракты. Европейская валюта слабеет, стремительно приближаясь к стоимости доллара, хотя еще недавно была дороже на 30%. И прогнозы все хуже.

Эксперты заговорили о том, что евро может стать дешевле доллара уже в январе 2016 года. В частности, ответственный за инвестиционные решения крупнейшего банка Германии «Deutsche Bank» экономист Ульрих Штефан в минувшее воскресенье заявил агентству Reuters, что курс евро может снизиться до 0,8225 за доллар.

Эксперты одного из крупнейших инвестиционных банков «Goldman Sachs» прогнозируют, что евро будет стоить дешевле доллара уже в январе 2016 года.

Участники рынка настроены на то, что на следующем заседании руководства Федеральной резервной системы США 15–16 декабря будет объявлено о давно ожидаемом повышении процентных ставок в Америке, что поспособствует снижению курса евро.

На вчерашний день, 30 ноября, 1 евро был равен 1,06 доллара США. Но что будет дальше, предсказывать никто не берется.

АКЦЫЯ



## Кароткая памяць

*Масавасці падчас правядзення дазволеных уладамі мерапрыемстваў з нагоды 95-й гадавіны Слуцкага збройнага чыну не назіралася.*

Слуцкі збройны чын – спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі ў раёне Слуцка ў лістападзе і снежні 1920 года. Каля месяца беларускія вайсковыя аддзелы, сфарміраваныя пераважна з мясцовых сялян, супраціўляліся наступленню савецкіх войскаў, такім чынам выказваючы пратэст супраць бальшавіцкай акупацыі. Збройныя дзеянні адбываліся з 27 лістапада па 31 снежня 1920 года.

Слуцкі райвыканкам дазволіў правесці ў райцэнтры 28 лістапада ўрачыстую дэманстрацыю і мітынг з нагоды юбілею Слуцкага збройнага чыну.

І ў мінулую суботу ў Слуцкі раён выправіліся прадстаўнікі Партыі БНФ, руху “За свабоду”, маладзёжныя актывісты... Яны праехаліся па вёсках, у Слуцку правялі мітынг. Паведамлялася, што ў раённым цэнтры да іх далучыліся мясцовыя апазіцыйныя актывісты з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Але, нягледзячы нават на тое, што мясцовыя ўлады не забаранялі мерапрыемства, на яго сабралася, напэўна, не больш за 100 чалавек. Гэта разам з прадстаўнікамі гарадской адміністрацыі і міліцыяй.

Дарэчы, на наступны дзень такое ж нешматлюднае мерапрыемства ў тым жа месцы правялі асобна і прадстаўнікі КХП–БНФ. Аб’ядноцца разам, каб ушанаваць угодкі, яны, відаць, не захацелі…

Шкада, кароткая памяць у многіх беларусаў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЯК ЖЫВЕШ, ЗЯМЛЯК?

## Вырубілі…

*У Крыме, акупаваным Расіяй, дзейнічае рэжым надзвычайнай сітуацыі. Гэта адбылося пасля таго, як на мінулым тыдні невядомыя падарвалі пашкоджаныя раней лініі электраперадач. Рэгіён імпартуе больш за 80% электраэнергіі з Украіны, астатнія 20% выпрацоўваюць на месцы. Але пасля далучэння паўвострава да Расіі ў Кіеве загучалі галасы: “Няхай Пуцін забяспечвае іх святлом. Чаму мы павінны дапамагаць акупантам?..” Зараз у гарадах Крыма адбываюцца веерныя адключэнні электрычнасці. На аўтазапраўках чэргі за палівам, у крамах – за генератарамі… У Севастопалі жыве наш суайчыннік, былы дэпутат Вярхоўнага Савета, былы палітвязень* **Уладзімір КУДЗІНАЎ.** *Вось яго расказ:*

*– Жывём, па сутнасці, без святла. Спачатку быў графік, згодна з якім электрычнасць на тры гадзіны адключалі і на тры гадзіны ўключалі. Потым адключаць сталі на 6 гадзін і толькі на 3 гадзіны ўключаць. Для кожнага раёна горада свой графік па гадзінах. Сёння ўжо на шэсць гадзін адключаюць святло і на паўтары гадзіны ўключаюць.*

*Між тым надвор’е стала больш халодным, і трэба запускаць кацельні, каб неяк ацяпляць кватэры. Таму кацельні запускаюць уначы, і тады святла зусім няма. Больш за іншых пакутуюць людзі, якія маюць электрычныя пліты, бо яны нават ежу не могуць прыгатаваць.*

*На Севастопаль трэба мінімум 70 мегават электраэнергіі. Паколькі гэтага няма, то прадпрыемствы спынілі сваю работу. Электрычнасць накіравалі на сацыяльныя аб’екты – школы, бальніцы, кацельні. У крамах чэргі за дызель-генератарамі. Самыя хадавыя – ад 2 да 5 кілават.*

*Гарадскія ўлады кажуць, што такая сітуацыя захаваецца да красавіка. Пакуль цёпла – 16–18 градусаў, але калі стане мінус 5, то будзе вельмі кепска.*

*Крамы працуюць, але няма ялавічыны, няма свініны. З мясных прадуктаў можна набыць толькі каўбасы і сасіскі. Цяпер з-за таго, што спынілі пастаўкі з Турцыі, адчуваецца дэфіцыт садавіны і гародніны. Раней у нас былі толькі турэцкія бульба, цыбуля, клубніцы, грушы, усе цытрусавыя.*

*Зніклі з паліц свечкі і ліхтарыкі. Праўда, працуюць рынкі. Там прадаюць тое, што закупілі ў Варонежы і Белгарадзе. Са студзеня плануюць спыніць пастаўкі малочнай прадукцыі, дык усе разумеюць, што кошты яшчэ вырастуць.*

*Асабліва цяжка цяпер пенсіянерам і інвалідам, якія не могуць забяспечыць сябе харчаваннем і сродкамі абагрэву. Калі раней, да крызісу, пенсія была 300–400 долараў, то цяпер – 110. Тыя, з кім я маю зносіны, не абвінавачваюць Украіну. Яны разумеюць, што пачалася эканамічная вайна з Расіяй, якая хутка не скончыцца. Пакуль жа шмат гаварыльні з боку мясцовых палітыкаў замест таго, каб будаваць станцыі. Кажуць, што да 20 снежня забяспечаць энергіяй. Але ж людзі разумеюць, што пракладкай аднаго кабеля па дне праліву сітуацыю не вырашыць. Трэба ж пабудаваць станцыі для прыёму энергіі. Людзі пачалі абурацца. Кажуць, што новая ўлада павінна была паклапаціцца пра гэта яшчэ ў 2014 годзе. Але ніхто не падумаў! Калі ж адбылося тое, што адбылося, дык яны пачалі то міністраў здымаць, то яшчэ нейкія папулісцкія дзеянні рабіць, а не вырашаць праблему. Людзі ж усё разумеюць, ніхто не дакарае Украіну, лічаць, што яна мае на гэта права, бо адбылася акупацыя Крыма. Але народ пытаецца, чаму Расія не паклапацілася адразу і дагэтуль нічога не зрабіла, каб забяспечыць нармальнае жыццё людзей.*

“Укрэнерга” плануе аднавіць пастаўкі электраэнергіі ў Крым літаральна днямі. Ідзе інтэнсіўная работа па рамонце разбураных апор. Тым часам Расія спыніла пастаўляць ва Украіну антрацытавы вугаль. Украіне сваіх запасаў хопіць толькі на месяц работы цеплаэлектрастанцый. Між тым паміж дзвюма краінамі разгараецца новы газавы канфлікт. Расійскі бок патрабуе паступлення новых плацяжоў. Украінскі – сцвярджае, што сам спыніў закупкі газу. Акрамя таго, прэм’ер-міністр Арсеній Яцэнюк анансаваў забарону на транзітныя палёты расійскіх авіякампаній праз тэрыторыю Украіны…

Тое, што адбываецца зараз, гэта не проста эканамічная вайна, гэта крокі з падтэкстам. Электраэнергія – у абмен на палонных, вугаль – у абмен на электраэнергію, Данбас узамен Крыма… Вось такі прыкладна ідзе гандаль. На вайне, як на вайне…

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЗДАРЭННЕ

## Памежнікі, а не пажарныя

Незвычайнае здарэнне адбылося на літоўска-беларускай мяжы, у пункце пропуску «Прывалка».

Загарэўся рэйсавы мікрааўтобус маркі Iveco. Ён ехаў па маршруце Вільнюс–Гродна. Загаранне адбылося ў кабіне кіроўцы ў момант праверкі памежнікамі пашпартоў.

У салоне 19-мясцовай іншамаркі ў той момант знаходзілася паўтара дзясятка пасажыраў, якія імкліва пакінулі свае месцы. Пасля здарэння іх забраў аўтобус, які спецыяльна прыехаў з Гродна. Мяркуецца, што прычынай узгарання мікрааўтобуса стала няспраўная электраправодка.

ЧУЛІ?

## Жонка Калаура пайшла на павышэнне

Ларыса Калаур, жонка старшыні Нацбанка Паўла Калаура, паднялася па кар’ернай лесвіцы. Раней яна была галоўным бухгалтарам «Банка Масква–Мінск». Цяпер жа яе асоба пазначана як выканаўчы дырэктар таго ж банка.

Яшчэ з пачатку года Міжнародны валютны фонд раіў Нацбанку пазбавіцца «Банка Масква–Мінск». Гэтую фінансавую арганізацыю беларуская дзяржава выкупіла за 55 мільёнаў долараў у расійскіх уласнікаў, бо тыя аказаліся пад санкцыямі Еўрасаюза.

Да ведаў і ўменняў Ларысы Калаур пытанняў не было, аднак яе высокая пасада ў «Банку Масква–Мінск» магла ўспрымацца як канфлікт інтарэсаў з пасадай мужа.

НАКАНУНЕ

## Алексиевич и шведский король

*В предстоящую субботу из белорусской авиагавани писательница Светлана Алексиевич уедет в столицу Швеции на церемонию вручения Нобелевской премии, которая состоится 10 декабря.*

По ее приглашению в Стокгольм отправится также несколько ее друзей-интеллектуалов. А именно: Жанна Грищенко, социолог, профессор БГУ; Юрий Зиссер, основатель и совладелец интернет-ресурса TUT.by; Юлия Чернявская, культуролог, писатель. Из Москвы приедут Борис Пастернак, российский издатель ее книг, а также Ядвига Юферова, белорусский и российский журналист. На церемонию приглашены и будут присутствовать Борис Петрович, писатель, главный редактор журнала «Дзеяслоў», Алесь Пашкевич, писатель, председатель Союза белорусских писателей, которые находятся сейчас в Стокгольме в творческой командировке.

Все приглашенные, кроме нобелиатки, едут в Стокгольм за свой счет. Они самостоятельно оплачивают проживание в гостинице, Нобелевский ужин и Нобелевский концерт, который проходит накануне церемонии вручения премии. Как стало известно, ужин в Голубом зале городской ратуши стоит примерно 270 евро, концерт – 150 евро на человека, причем вход именно на это мероприятие ограничен. А вот попасть на званый ужин могут не только избранные персоны, но и простые люди, причем совершенно бесплатно: для этого нужно обладать большим везением и умудриться выиграть в лотерею билет на банкет.

Как известно, вручение Нобелевской премии проходит в день смерти Альфреда Нобеля – он умер 10 декабря 1896 года. Церемония награждения проходит в Концертном зале Стокгольма, где присутствует 1200 человек. А ровно в 19 часов 10 декабря почетные гости во главе с королем и королевой спускаются по лестнице в Голубой зал на банкет, где уже сидят все приглашенные. По традиции шведский король ведет под руку нобелевскую лауреатку, а если таковой не окажется – жену Нобелевского лауреата по физике. Так как в этом году среди лауреатов есть женщина-писатель, то король поведет под руку Светлану Алексиевич! Первым произносится тост за Его Величество, вторым – в память Альфреда Нобеля. Во время всего ужина звучит музыка – приглашаются очень знаменитые музыканты.

Лауреатов награждают в столицах сразу двух стран. В Стокгольме король Швеции вручает премии в области физики, химии, физиологии и медицины, литературы и экономики. В Осло в городской ратуше в присутствии короля Норвегии и членов королевской семьи председатель Норвежского Нобелевского комитета вручает премию в области защиты мира. Наряду с денежной премией, размер которой меняется в зависимости от дохода, полученного Нобелевским фондом, лауреатам вручается золотая медаль с изображением Нобеля и диплом.

Это мероприятие насколько торжественное, настолько и строго церемониальное. Мужчины должны быть во фраках, женщины – в вечерних платьях в пол. Причем платьев должно быть два: на саму церемонию и банкет в честь премии, а также на концерт, который обычно проходит 8 декабря. Насколько стало известно, некоторое время назад Светлана Алексиевич заказывала наряды у известного дизайнера Саши Варламова. Возможно, и для стокгольмского торжества в том числе. В любом случае телевизионная трансляция, которая будет идти по международным каналам, передаст нам атмосферу праздника.

КСТАТИ

Пресс-службе Белтелерадиокомпании до сих пор не известно, будет ли Белорусское телевидение вести трансляцию из Стокгольма с церемонии вручения престижнейшей международной премии, которой в этом году впервые удостоена гражданка Беларуси Светлана Алексиевич. Решение примет начальство, ответили в пресс-службе. И, как мне кажется, это, по-видимому, будет не телевизионное начальство, а гораздо выше.

**Елена МОЛОЧКО.**

УЧОРА

## Праект ці зноў пражэкт?

У панядзелак 30 лістапада Аляксандр Лукашэнка правёў нараду, прысвечаную пытанню рэалізацыі інвестыцыйнага праекта па арганізацыі вытворчасці па зборцы легкавых аўтамабіляў «БелДжы».

Наладзіць вытворчасць легкавых аўтамабіляў у Беларусі спрабавалі не раз. Нават учора Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што гэта яго «даўняя мара», каб наша краіна магла забяспечыць людзей і арганізацыі ўласнымі легкавікамі.

На гэты раз праект вырашылі рэалізоўваць з дапамогай Кітая.

“– *Паглядзеўшы на гэтую зборачную вытворчасць, мы прынялі рашэнне: быць у нас легкавому аўтамабілю, і ствараць яго мы будзем разам з кітайцамі на аснове іх тэхналогій,* – цытуе словы Лукашэнкі БЕЛТА. – *Гэта не значыць, што мы проста возьмем і дакладна скапіруем і вырабім аналагічны аўтамабіль. Там, дзе можам, а мы можам, у нас ёсць досвед зборкі і вытворчасці грузавых аўтамабіляў і кампанентаў для легкавікоў, мы павінны выкарыстаць уласны досвед і ўласныя напрацоўкі. Яны ёсць і ў Нацыянальнай акадэміі навук, і ў прыкладной навуцы таксама. Таму паволі мы павінны ўдасканальваць гэты аўтамабіль і пабудаваць новы завод па вытворчасці так званай «БелДжы».*

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што на цяперашні час завод будуецца, у тым ліку з удзелам кітайскага крэдыту. Плануецца, што пасля запуску першай чаргі прадпрыемства будзе выпускацца за год да 60 тысяч аўтамабіляў, пасля запуску другой чаргі – 120 тысяч.

Паводле слоў Лукашэнкі, цяпер галоўнае пытанне – дзе будзем прадаваць? Калі ўнутраны рынак забяспечым, ці ўдасца іх прадаваць у замежжы? Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што калектыў будзе рабіць *«самыя якасныя аўтамабілі». «Прымусім»,* – сказаў ён.

Вось толькі ці палічаць Расія і Казахстан гэтыя аўтамабілі легкавікамі беларускай вытворчасці і ці пусцяць іх на свае рынкі без дадатковай аплаты падаткаў? Раней менавіта гэта не дазваляла развярнуць зборку легкавых аўто ў Беларусі і перакрэслівала ўсе нашы планы.

**Іван КУЖЭЛЬНЫ.**

БУДЬТЕ ГОТОВЫ!

## Лифт, уборка, освещение, утепление – за счет средств граждан

Министерство Жилищно-коммунального хозяйства предлагает исключить из состава услуг уборку придомовых территорий, подъездов, расходы на освещение мест общего пользования и возложить эти обязанности на граждан (самостоятельная уборка) или предоставить этот вид работ как отдельную услугу.

Возмещение расходов организаций, осуществляющих эксплуатацию жилфонда, на приобретение электрической энергии рекомендуется обеспечивать за счет собственников пропорционально долям на общее имущество.

Плату за лифт также возложат на собственников и тоже пропорционально долям в общем имуществе. Услугу оплачивать будут и владельцы пустующих квартир.

Возмещение электрической энергии, потребляемой лифтом, будет возмещаться в зависимости от количества проживающих граждан.

Капитальный ремонт предполагает восстановление основных физико-технических, эстетических и потребительских качеств дома. Он должен производиться исключительно в отношении тех элементов здания, от которых зависит безопасность его эксплуатации.

Все работы, относящиеся к модернизации (в том числе и тепловой!), будут выполняться по желанию собственника и только за его деньги.

Одним словом, жилищно-коммунальные службы хотят умыть руки, возложив все обязанности на жильцов. Но тогда за что мы платили и платим им деньги?

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Георгій КАНДРАЦЬЕЎ: «Я вярнуўся»

*Больш за год былы галоўны трэнер зборнай Беларусі Георгій Кандрацьеў знаходзіўся без работы.*



51-гадовы **Георгій Кандрацьеў** быў прызначаны галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе ў снежні 2011 года. На гэтай пасадзе ён змяніў нямецкага спецыяліста **Бернда Штангэ.**

*«Праца будзе нялёгкай. Самае важнае для мяне вас не падвесці,* – сказаў адразу пасля прызначэння Георгій Пятровіч. – *Я заўсёды працаваў сумленна, ніколі ніякіх закулісных гульняў не вёў. У зборную будуць прыцягвацца найлепшыя ігракі».*

У 2014 годзе Кандрацьеў пайшоў у адстаўку пасля паражэння каманды ад зборнай Славакіі ў адборачным матчы да чэмпіянату Еўропы-2016. Пад яго кіраўніцтвам беларуская каманда правяла 11 афіцыйных сустрэч і толькі аднойчы перамагла. Пры гэтым сем разоў прайграла і тры разы згуляла ўнічыю.

*"Я вінаваты,* – шчыра прызнаўся тады настаўнік. – *Калі каманда прайграе, заўсёды вінаваты трэнер... Калі выніку няма, трэнер павінен сысці. Я абяцаў – я сыходжу. Але вы думаеце, што прыйдзе іншы спецыяліст і нешта зменіць? Мы да гэтага 25 гадоў ішлі, да таго і прыйшлі... Юнакі ўсім прайграюць. У Расіі выступаюць два чалавекі, астатнія – у глыбокім запасе. Мы ўжо адсталі амаль назаўсёды ад вядучых краін свету. Славакія – не ахці якая футбольная дзяржава, але мы ўжо і ёй саступаем. Паглядзіце, як з мячом працуем мы і як гэта робяць славакі... Думаеце, прыйдзе нейкі трэнер... Нават калі сабраць у адным трэнеры ўсе лепшыя якасці ўсіх трэнераў свету, думаеце, за тры дні ён навучыць нашых футбалістаў гуляць?"*

Пасля гэтага на трэнера пакрыўдзіліся асобныя футбалісты і накінуліся некаторыя СМІ. Георгій Кандрацьеў таксама пакрыўдзіўся і перастаў даваць інтэрв'ю. Год ён заставаўся без работы. Былы галоўны трэнер зборнай Беларусі **Анатоль Байдачны** з гэтай нагоды выказаўся так:

*"У нас ёсць адна рыса – абляць сваіх. Той жа Кандрацьеў столькі зрабіў для беларускага футбола! Быў лепшым нападаючым, бамбардзірам, вывеў маладзёжную зборную на чэмпіянат Еўропы, потым на Алімпіяду. Так, з нацыянальнай камандай не атрымалася – ёсць аб'ектыўныя прычыны і суб'ектыўныя. Але за што столькі бруду?! Хто да яго зрабіў лепш?.. Безумоўна, Кандрацьеў перажываў. І зараз перажывае. Клікаў яго на стадыён, адказваў: "Не пайду". Вось пакінуў Жора зборную – і хто-небудзь прапанаваў яму работу?.."*

І вось навіна – Георгій Кандрацьеў нарэшце ўзначаліў футбольны клуб "Мінск".

**– Вас можна павіншаваць?** – датэлефанаваўся я да Георгія Пятровіча.

– Скажам так: я вярнуўся ў футбол.

**– Чым вы займаліся цэлы год, калі заставаліся без работы?**

– Дома сядзеў. Глядзеў футбол па тэлевізары і адпачываў.

**– Ці былі вам за гэты час нейкія прапановы ад каманд?**

– Былі, але што сёння пра іх распавядаць, калі яны ні да чаго не прывялі? А размоў і тэлефанаванняў было шмат. А вось з канкрэтыкай узнікалі пэўныя праблемы.

**– За год быў час прааналізаваць сваю ранейшую работу, нейкія памылкі...**

– Я, наадварот, стараўся пра гэта менш успамінаць. Адпачываў, аднаўляў здароўе, з сабакамі гуляў. На жаль, зараз у мяне застаўся толькі адзін сабака, а вось Цімка памёр.

**– Ёсць такі выраз: "Чым больш я пазнаю людзей, тым больш мне падабаюцца сабакі".**

– Згодны з вамі на ўсе сто працэнтаў.

**Алесь СІВЫ.**

МАЗАІКА

## Ягор Герасімаў стаў першай ракеткай Беларусі

*У новым рэйтынгу АТП, які абнавіўся ўчора, беларускі тэнісіст Ягор Герасімаў падняўся на 188-е месца.*

Такім чынам, ён абышоў у рэйтынгу Уладзіміра Ігнаціка і вярнуў сабе званне першай ракеткі Беларусі.

Ягор Герасімаў падняўся адразу на 34 (!) пазіцыі – з 222-га месца на 188-е. Уладзімір Ігнацік апусціўся на тры пазіцыі – зараз ён на 215-м месцы.

## У Мінску пройдзе яшчэ адзін хакейны чэмпіянат свету?

*Кіраўнік Федэрацыі хакея Ігар Рачкоўскі не выключае такой магчымасці.*

Паводле слоў Рачкоўскага, федэрацыя збіраецца падаць заяўку на правядзенне ў беларускай сталіцы яшчэ аднаго чэмпіянату свету па хакеі.

*"Мы плануем пачаць барацьбу за 2021 год,* – распавёў ён у эфіры АНТ. – *Думаю, атрымаць права правядзення першынства свету ў 2021-м ці 2022 годзе нам па сілах. Тым больш што на кожным кангрэсе ўсе ўспамінаюць, як праходзіў чэмпіянат у Мінску ў 2014 годзе".*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Колькі зарабляюць хакеісты ў чэмпіянаце Беларусі?

*Мінімальны заробак ігракоў нацыянальнага першынства па хакеі – 8,5 мільёна рублёў у месяц.*

Паводле слоў старшыні Федэрацыі хакея **Ігара Рачкоўскага**, "упершыню ўстаноўлены мінімальны заробак хакеістаў ў 8,5 мільёна, каб іх сацыяльна абараніць".

*"Гэта дзейнічае з красавіка,* – дадаў спадар Рачкоўскі. – *Мы не будзем індэксаваць гэтую суму. Па курсе – гэта 410 долараў з вылічэннем падаткаў. Гэта ж не нейкая гіганцкая сума! Тым больш практычна палова ігракоў чэмпіянату Беларусі атрымліваюць менавіта гэты мінімум".*

А вось максімальны заробак у нацыянальным першынстве – 85 мільёнаў у месяц. Праўда, як заявіў хакейны функцыянер, атрымліваюць яго *"крыху больш за дзесяць чалавек".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Рэдакцыя газеты "Народная Воля" выказвае шчырыя спачуванні намесніку галоўнага рэдактара **Марыі Станіславаўне Эйсмант** у сувязі з раптоўнай смерцю **брата Юрыя.**

ВІНШУЕМ!

# «Вадзіма з печкі ў вёсцы сцягнулі, каб ён чэмпіёнам свету стаў...»

*Беларускі цяжкаатлет Вадзім Стральцоў выйграў золата па суме дваябор'я на чэмпіянаце свету ў ЗША.*



У вагавой катэгорыі да 94 кілаграмаў наш суайчыннік паказаў вынік 405 кг (175 + 230).

– Вадзім Стральцоў – выхаванец магілёўскай школы цяжкай атлетыкі, – распавёў "Народнай Волі" пра пераможцу трэнер Магілёўскага вучылішча алімпійскага рэзерву **Анатоль ЛАБАЧОЎ**. – Я яго ў свой час прывёз з адной вёскі ў Касцюковіцкім раёне. Трэба было набіраць перспектыўных хлопцаў. Як звычайна праводжу адбор? Вязу з сабой штангу, даю школьнікам паспрабаваць свае сілы, праводжу тэсты. 15-гадовы Вадзім ужо тады быў здольным. Вясковы хлопец ніякім спортам не займаўся, а здаровы і каржакаваты быў – дай Бог. Тыя якасці, якія неабходны штангісту.

**– Чаму Вадзім Стральцоў не патрапіў на Алімпіяду, якая праходзіла ў Пекіне?**

– Я вам шчыра скажу: там бы ён стаў алімпійскім чэмпіёнам, быў гатовы да гэтага. Але на апошняй трэніроўцы перад паездкай на Алімпіяду падняў штангу і... траўміраваўся. Уяўляеце, як крыўдна: столькі трэніравацца, а за дзень да паездкі ўсё пусціць пылам? Дарэчы, на Гульні Вадзім усё-такі патрапіў у якасці гледача, бо білеты былі куплены зараней, але за спаборніцтвамі калег назіраў, што называецца, са слязьмі на вачах. З трыбуны.

**– А наогул які ў чэмпіёна свету характар?**

– Даволі няпросты, але я лічу, што так і павінна быць. Калі ў спартсмена мяккі характар, ён нічога не дасягне. У свой час Вадзім нават вырашыў кінуць спорт, уцёк ад мяне ў вёску. Сядзеў там некалькі тыдняў на печцы. Давялося сцягваць яго адтуль і вяртаць таленавітага хлопца ў вучылішча. А не сцягнуў бы, дык сёння і чэмпіёнам свету не стаў бы.

**– Як вы ацэньваеце яго перамогу на чэмпіянаце свету?**

– Цудоўны вынік, што тут можна казаць! У гэтай вагавой катэгорыі выступалі 44 спартсмены – уяўляеце, якая канкурэнцыя? І вынік, які ён паказаў, думаю, не максімальны. У рыўку, напрыклад, Вадзім як мінімум недабраў 5 кілаграмаў. Да Алімпіяды яшчэ ёсць час папрацаваць. Калі, натуральна, здароўе не падвядзе.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АЎТАРЫТЭТНА

## Валерый ШАРЫЙ, алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы:



– Вадзім Стральцоў у спорце даволі даўно, але, шчыра кажучы, яму не шанцавала. То адна траўма, то другая... Не паспеў аднавіцца – ізноў у шпіталь.

А так хлопец вельмі моцны. Можна было ад яго чакаць медаль на гэтым першынстве, але першае месца – гэта прыемная нечаканасць!

Думаю, што на Гульнях-2016 Вадзім будзе рэальна прэтэндаваць на медалі. Тым больш што ў наступным годзе яму споўніцца ўжо 30 гадоў, для хлопца гэта можа быць апошні шанц трапіць на Алімпіяду.



КРЫЖАВАНКА

# «Найвярнейшы, найздатнейшы сын»

*Да 85-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.*



**Па гарызанталі:** 1. ... зіме сцежку пракладае (прык.). 4."... Каліноўскі" – драма класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча, якому сёлета 26 лістапада споўнілася б 85 год. 9."..., якую прайшоў" – аўтабіяграфія пісьменніка. 10."Мая ..." – кніга вершаў, якая выйшла ў свет у 1969 годзе. 11."... прызямліўся ў Гародні" – вядомы раман У.Караткевіча, па якім быў зняты аднайменны мастацкі фільм. 15."Гэта ... раскрытых душ і дзвярэй" – з верша "На Беларусі Бог жыве". 16.Від вершаванага літаратурнага твора, які прысутнічае ў творчасці У.Караткевіча: "... аб трыццаць першым сярэбраніку", "... пра паўстанца Ваўкалаку", "Паўлюк Багрым". 17.Воднае покрыва Зямлі. 19."Помач Маці-Радзіме і ... –//Найвярнейшы, найздатнейшы сын" – з верша Л.Геніюш "У жыцці ў цябе ўдараў нямала", які выдатная беларуская паэтка прысвяціла Ул.Караткевічу. 20."Край згубіў сваю мову//І матчынай песні ..." – з балады пісьменніка "Паўлюк Багрым". 21.Вышэйшая ступень, вяршыня чаго-небудзь. 22.Старадаўні герб, які належаў шляхецкаму роду продкаў Ул.Караткевіча. 24.Касьба, кашэнне. 26.Караткаствольная артылерыйская гармата. 28.Чуллівасць; ёй прасякнута ўся творчасць Ул.Караткевіча (разм.). 30.Від безрукаўкі ў традыцыйным касцюме беларускіх жанчын. 32.Горад на Гомельшчыне, куды пісьменнік часта наведваўся да свайго дзеда Васіля Грынкевіча і дзе напісаў шмат сваіх лепшых твораў. 33.Прысвятак беларускага народнага календара (27 лістапада), які прысвечаны апекуну плоднасці і дзяцінства.

**Па вертыкалі:** 1.Невялікі кавалак лёду. 2.Харчовы малочны прадукт. 3.Вялікая птушка (разм.). 5.Рукапісная копія. 6.Бабовая расліна. 7."У снягах драмае ..." – аўтабіяграфічная аповесць Ул.Караткевіча. 8."...-трава" – апавяданне, адзін з першых твораў пісьменніка, які, як і раман "Каласы пад сярпом тваім", ён прысвяціў сваёй маці – Надзеі Васільеўне. 12.Урачысты верш. 13.Імя жонкі пісьменніка, якой быў прысвечаны верш "Таўры" і раман "Чорны замак Альшанскі". 14.Свята беларускага народнага календара (28 лістапада), з якога пачынаўся перадкалядны пост. 17.Вокны. 18.Хвароба, выкліканая парушэннем абмену рэчываў. 21."... пад белымі крыламі" – шырока вядомы нарыс, у якім пісьменнік змясціў урыўкі з твораў Л.Геніюш. 22.Вялізны пітон з кнігі Р.Кіплінга "Кніга Джунгляў". 23."... чалавечага духу" – так назваў Ул.Караткевіча Васіль Быкаў у сваім развітальным слове на пахаванні пісьменніка. 25.Уладзімір ... – беларускі кампазітар, аўтар музыкі да оперы "Дзікае паляванне караля Стаха" па аднайменнай аповесці Ул.Караткевіча. 26.Спартыўнае спаборніцтва ў гульні паміж дзвюма камандамі. 27."Чырвоны ..." – мастацкі кінафільм, аўтарам сцэнарыя якога быў Ул.Караткевіч. 29.Летапісная назва г.Оршы, малой радзімы Ул.Караткевіча. 31. Агульная назва газет, часопісаў, радыё, тэлебачання, інтэрнэту (абрэв.).

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

### Адказы:

**Па гарызанталі:** 1.Лістапад. 4.Кастусь. 9.Дарога. 10.Іліяда. 11.Хрыстос. 15.Край. 16.Балада. 17.Акіян. 19.Сёння. 20.Напеў. 21.Зеніт. 22.Корвін. 24.Укос. 26.Марціра. 28.Лірыка. 30.Гарсэт. 32.Рагачоў. 33.Юстыніян.

**Па вертыкалі:** 1.Лядзяк. 2.Сыр. 3.Птах. 5.Спіс. 6.Соя. 7.Вясна. 8.Багун. 12.Ода. 13.Валянціна. 14.Піліпаўка. 17.Аконне. 18.Дыябет. 21.Зямля. 22.Каа. 23.Рыцар. 25.Солтан. 26.Матч. 27.Агат. 29.Рша. 31.СМІ.



ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

# Чем опасна цифра «7»?

Посмотрите внимательно на пластиковую упаковку продуктов, которые вы покупаете, или столь популярные пластиковые контейнеры. На дне промышленным способом выдавлены какие-то значки-рисунки и значки-коды. Что они означают?

Указанные значки – это маркировка тары, дающая потребителю много очень нужной информации. Так, «снежинки» обозначают, что контейнер подходит для замораживания продуктов, «печка с волнами» – что в нем можно разогревать пищу в микроволновке, «тарелочки под душем» говорят о том, что тару разрешено мыть в посудомоечной машине. Значок «бокал и вилка» указывает на то, что посуда пригодна для контакта с пищевыми продуктами.

Особое внимание следует уделить треугольничку из трех стрелок – знаку вторичной переработки сырья, который символизирует цикл «создание – применение – утилизация». Цифры внутри треугольника очень важны – они говорят о типе переработанного материала. Специалисты настоятельно не рекомендуют использовать для продуктов контейнеры с цифрами «3» (поливинилхлорид), «6» (полистирол) и 7 («прочее»).

А вот цифрой «1» обозначается самый экологичный полимер – полиэтилентерефталат (PET). Из него делают бутылки для безалкогольной воды и соков, одноразовые стаканчики, коробки.

Однако и эти изделия специалисты не рекомендуют использовать долго. Во-первых, такую тару в быту сложно хорошо вымыть, в ней остаются и размножаются микроорганизмы; во-вторых, со временем PET-материалы теряют защитные свойства и начинают выделять токсичные вещества.

Еще одно важное замечание: любую одноразовую посуду нельзя использовать повторно!

Для детей вообще лучше брать стеклянную посуду. Потому что при изготовлении полимерных изделий добавляют фталаты (эфиры фталевой кислоты) и бисфенол А, чтобы придать ей эластичность и ряд иных свойств. При нагревании и длительном хранении пищи названные вещества могут переходить в продукт. Для беременных, плода и новорожденных эта химия опасна даже в малых количествах.




Если все же вы не можете обойтись без посуды, сделанной из полимера (особенно если речь идет о кормлении ребенка), компромиссом будет пластик с маркировкой «5» (полипропилен) и товары с надписями «DPAfree», «Без БФА» или «Не содержит бисфенол А».

А вообще, специалисты рекомендуют вместо пластиковой использовать посуду из бумаги. Она экологически безопасна, и ее применение безвредно для вас и ваших детей.

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15094

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.11.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №4874.